# ІСКРЫ ІЛЬІЧА





№ 6

ЧЭРВЕНЬ 1934

Іскры Ільіча
ОРГАН ЦК ЛКСМБ і НАРКАМАСВЕТЫ

ШТОМЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ
ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ МАЛОДШАГА ЎЗРОСТУ

ЧЭРВЕНЬ 1934 № 6

# КУЛЯМЁТ

Апавяданне О. Дончанк
Малюнкі А. Волкава

Было гэта тады, як заваёўвалі рабочыя і сяляне сабе волю. Прагналі працоўныя паноў, здабылі сабе свабоду. Але паны не здаліся адразу. Яны намагаліся адабраць назад сабе зямлю і заводы.

Дзіўны быў час! Дзіўныя дні!. Тата гаварыў: „Іх не забудзеш ніколі“. І сапраўды—ці-ж можна іх забыць? Я так усё добра памятаю, дарма, што было тады мне толькі сем гадоў...

Вось хоць-бы пра кулямёт... Як цяпер стаіць ён перада мною на калёсіках—такі чорны, такі жалезны, такі... страшны і невядомы...

А майму брацiку Косцiку (яму тады пяць гадоў было) кулямёт здаваўся чамусьці плужкам. Чаму? Можа таму, што на калёсіках? Косцік так і сказаў: „Ого, які плужок на калёсіках!“



Гэты кулямёт укаціў у нашу хату чырвонаармеец і паставіў каля парога. Засмяяўся і сказаў:

— Сустракайце гасцей! Нас дваіх — я ды мой таварыш.

Ды так вачыма на кулямёт паказвае. Вось ён, бачыце, гэты таварыш?




Засмяяўся і тата.

— Просім, — кажа, рады гасцям!

— Дзень у вас, — кажа чырвонаармеец, — пастаім, а тады далей пойдзем, біць белых бандытаў.



Але-ж таго дня падвечар чуем: трашчаць за вёскаю стрэлы. Бліжэй і бліжэй...

— Дзеці, на печ! — гукнуў бацька.

А стрэлы ўжо чуваць — каля саменькай вёскі. Раптам дзверы — грук! адчыніліся насцеж. Маланкаю ўляцеў у хату наш чырвонаармеец.

— Банда наляцела! — гукнуў ён, ды, схапіўшы кулямёт, хутка падцягнуў яго к парогу.

І тут здарылася тое, чаго я адразу і не зразумеў. Чырвонаармеец упаў. Тата падбег да яго, а ён хрыпла так прагаварыў: „Кулямёт схавайце!“

Толькі і паспеў сказаць. Трохі счакаўшы, я здагадаўся, што яго забіла куля. Яна, нібы аса, уляцела праз адчыненыя дзверы.

Гляджу я, — схапіў тата кулямёт на плечы, паставіў к нам на печ, у куток, накрыў посцілкамі.

— Маўчыце-ж! — пагразіў нам.

І толькі схаваў тата кулямёт, чуем — гуп! Гуп! Гуп! Гуп! Бяжыць. Цяжкія боты гупаюць вось ужо пад саменькім акном.

Ускочылі ў хату. Двое. Шапкі на іх кудлатыя, нібы нашага Рабчыка хвост. І вінтоўка ў кожнага ў руках. Я адразу зразумеў: не нашы гэта — бандыты!

— Зброя ёсць? — закрычаў адзін.

Я добра запомніў таго першага—ён зубамі белымі ўсё пабліскваў.

— Адкуль яна будзе ў нас?—адказаў бацька.

— Глядзі, знойдзем—застрэлім!—пагразіў другі бандыт.

Як пачуў я гэта — затросся. Хачу не дрыжаць — не магу. Само цела дрыжыць. Рукі трасуцца, ногі. Пальцы танцуюць...

І раптам чую, брацік Косцік (ён вылез наперад) голасна так, на ўсю хату:

— А ў нас плужок на печы ёсць!..

Я і акамянеў увесь. А потым—невядома, як гэта сталася—тузануў Косціка, штурхануў яго. Заплакаў ён... Я-ж ціханька палез у куток ды засланіў кулямёт сваёю спінаю...

А бандыт пытае:

— Які там плужок? Ён не страляе, часам?

Чую: папярхнуўся бацька ды кажа:

— Ат, гаворыць няма ведама што, ведама дзіця...

Бандыт падышоў і глянуў на печ, але нічога не ўбачыў.

Выйшлі яны з хаты. А тата... схіліўся на стол і ўсхліпнуў... Я падумаў, што яму шкода забітага чырвонаармейца. Сапраўды шкода было... Ой, як шкода!..

Калі бандытаў назаўтра прагналі з сяла, было наладжана пахаванне. На труне чырвонаармейца стаяў кулямёт. Ён быў абвіты чырвонымі істужкамі. Той самы кулямёт, што яго называў брацік мой „плужком“. І ўжо не здаваўся ён мне цяпер такім страшным і невядомым...






# Вавёрка

Апавяданне А. Дыла

У густым зялёным лесе нарадзілася вавёрачка. Прыгожы рыжанькі камячок з доўгім пушыстым хвосцікам і чорнымі, нібы пацеркі, вачыма. Першыя дні вавёрка толькі ела ды спала, потым пачала выглядваць з гнязда сваімі жвавымі вочкамі. Паглядзіць, што робіцца навакол, і схаваецца. Праз некаторы час пачала прабаваць свае сілы: ціханька, асцярожна ўзлезе на бліжэйшую галінку, мільгане рыжым хвосцікам, ды шусь у гняздо. Гэтак праходзілі першыя дні жыцця нашай вавёркі.

---

Свеціць сонейка, спяваюць птушкі, гамоніць лес. Весела і прывольна дзецям у лесе.

— Вадзя, Вадзя, глядзі, жучок!

— Дзе, Ліна, дзе?

— Вось паўзе пад лісток.

— Ай, які харошанькі і які спрытны!

— Не чапай, я знайшла, мой!

І чатыры рукі адначасова працягнуліся да жучка.

Ш-у-р-шш...

Зашуршэла нешта ўгары і раптам замест жучка перад дзецьмі на траўцы сядзіць рыжанькі звярок. Палахліва глядзіць ён на дзяцей сваімі жвавымі вочкамі. Гэта спалоханая вавёрка звалілася з галінкі.

— Ай, ай, што гэта?

— Тс-с... Ва-вё-рач-ка!

Ліна працягнула руку ды назад.

— Баюся, кусаецца!

А Вадзік дастаў з кішэні хустачку і асцярожна, накрыўшы вавёрку, узяў яе на рукі.

— Тук... тук... тук...—стукае сэрца вавёрачкі. Боязна ёй. Прыцісную Вадзік вавёрачку да грудзей ды бягом дадому.

---

Першы дзень вавёрка, забіўшыся ў куток, палахліва пазірала вакол, не ела, не піла. На другі дзень пачала хадзіць па хаце і да ўсяго прыглядацца, а праз тыдзень і пазнаць яе нельга было — зусім ручною зрабілася! Гуляла з дзецьмі, ела з рук, пасябравала з кошкай „Муркай" і толькі доўга баялася

вялізнага чорнага, з белымі лапамі, сабакі, якога клікалі „Босы". А „Босы" нават і ўвагі на яе не звяртаў, — ляжыць сабе на падлозе ды хвастом мух адганяе.

— Дзе-ці, абе-даць!—кліча маці.

А вавёрачка, як пачуе грукат талерак, тут як тут, сядзе на рагу стала і чакае сваёй порцыі. Ела яна булку, сухарыкі, малако і вельмі любіла салодкае: цукар, цукеркі. Сладкаежка была вавёрачка.

Зварыла мама варэнне з малін, парэчак, суніц. Зверху абгарнула паперай, нітачкай абвязала ды схавала ў шафу. Дзверцы шафы былі зачынены не шчыльна. Падбегла вавёрачка, адчыніла лапкай дзверцы ды юркнула ў шафу. Абнюхала ўсе слоікі, знайшла слоік з сунічным варэннем, лапкай разарвала паперу і пачала есці. Апусціць лапку ў слоік, зачэрпае варэнне, дастане і абліжа лапку, пасля зноў яе ў слоік апусціць. Пакуль агледзеліся, дык за некалькі дзён так з паўслоіка выцягала. Іншага-ж якога варэння, не сунічнага, нават не закранула ні разу.



* * *

Аднаго разу ў поўдзень раптам неяк сцямнела; хмары аблажылі ўсё неба, бліснула маланка, загрымеў гром. Вавёрка занепакоілася і кудысці знікла.

Шукалі, шукалі дзеці, няма нідзе, згінула вавёрка.

— Уцякла, мабыць, у лес,—сказала заклапочаная Ліна.

Увесь дзень, нават у час абеда вавёркі не было.

Вечарам плачучы клалася Ліна спаць: шкада ёй было вавёркі.

І раптам з-пад падушкі паказалася рыжанькая мордачка і весела паглядае на дзяцей.

Як выявілася, у час навальніцы спалоханая вавёрачка зашылася пад падушку і там ляжала.

— У, гадкая, як ты нас напалохала!—смяецца праз слёзы Ліна.

— Наша вавёрка самая лепшая на свеце,—дадае Вадзік.

* * *

У канцы лета вавёрка пачала знікаць з дому. Вылезе праз фортку і ўсю ноч гуляе па двары, а раніцай назад прыходзіць. Калі фортка зачынена, дык стукае лапкай у шкло, нібы гаворыць:

— Пусціце, я снедаць захацела.

Пад восень яе пагулянкі пачалі рабіцца даўжэйшымі: па два-тры дні не прыходзіла вавёрка дадому. А адзін раз нават і тыдзень яе не было. Засумавалі дзеці.

— Уцякла вавёрачка ад нас,

— А можа яе паляўнічы забіў?

— Вернецца, вернецца,—супакойвала дзяцей маці.

І праўда, на гэты раз ваверка яшчэ вярнулася.



Рады былі Ліна і Вадзя, цэлы дзень гулялі з вавёрачкай, а Ліна нават істужачку ружовую на шыю ёй завязала.

— Глядзі, якая яна ў нас харошанькая,—хваліцца Ліна.

К пачатку верасня вавёрка зусім знікла з дому.

Гуляючы па лесе, дзеці прыглядаліся, можа дзе ўбачаць сваю вавёрачку. Але доўгі час яе не бачылі.

Аднаго разу, збіраючы грыбы, дзеці пачулі, што „Босы" брэша тоненькім галаском. А сабакі, калі бачаць вавёрку, дык неяк асабліва тоненька брэшуць.

Падбеглі дзеці туды, дзе брахаў „Босы". Глядзяць: нізка на галінцы сядзіць вавёрачка з ружовай стужкай на шыі і не ўцякае ад „Босага".

— Наша вавёрачка! — радасна закрычалі дзеці.

Працягнуў Вадзік руку да яе, а вавёрка яго за палец... цап!

— Ай,—крыкнуў Вадзік. З пальца пацякла кроў.

— Ну і нядобрая ж ты, вавёрачка, мусіць забыла нас?

Вавёрачка ўзлезла вышэй, потым яшчэ вышэй, пераскочыла на суседняе дрэва, махнула апошні раз рыжым хвосцікам і знікла ў гушчары леса.

— Вадзік, глядзі, грыбы на дрэве!— здзіўлена закрычала Ліна.

Паглядзеў Вадзік і ўбачыў, што на галінках дрэва былі паначэплены грыбкі, ужо трохі падсушаныя.

— Я ведаю хто гэта іх сушыць, — гэта наша вавёрка!

— Вавёрка?

— Ну так, вавёрка, гэта яна сабе на зіму ежу рыхтуе. Пэўна тут недалёка яе дупло,—сказаў Вадзік.—Яна ў дупло грыбкі складае. І не толькі грыбы, але яшчэ і арэхі, і шышкі. Таксама ягады сушыць, а дупло выкладае мохам і галінкамі, каб цёпла і мякка было зімою.

Доўга глядзелі дзеці ўслед вавёрцы, чакалі, можа яна яшчэ вернецца.

Але вавёрка знікла ад іх назаўсёды.

А. АЛЕКСАНДРОВІЧ

# казка пра пана-жываглота

Малюнкі А. Волкава

За марамі, там дзе горы,
За гарамі, дзе азёры,
За азёрамі, пад сонцам,
У закінутай старонцы
Ёсць гара.
На той гары,
У дубовым гушчары,
Жыў спакойна ўвесь свой век
Невядомы чалавек.
Жыў багатым жываглотам,
Працаваць не меў ахвоты.
Ад зары і да зары
Знемагалі за работай,
Пад крывавым, горкім потам
Толькі птушкі і звяры.
Сам не сеяў, не араў,
Ледзь нагой пераступаў,
А ўсяго яму ставала—
Хлеба, солі, круп і сала.

Свінні дзікія аралі,
Галкі ўслед баранавалі,
Бусел сеяў. Нават козы
Дралі лыка з вербалозаў,
А мядзведзь каля кустоў
З таго лыка лапці плёў.
Як засцеле завіруха
Шлях—дарогу белым пухам,
Ці на захад, ці на ўсход,—
Сабіраўся ў паход
Зверадавец-гаспадар
Прадаваць дабро-тавар.
Двор гудзеў перапалохам,
Усцілалі санкі мохам,
Кожны лётаў,
ахаў,
охаў—
Суматоха, суматоха...
Загудзеў мядзьведзь у рог:
Сто ласёў ужо запрог!
Гусі, лебедзі вароты





Адчыняюць жываглоту.
Дзятлы б'юць у барабан:
— Едзе,
едзе,
едзе —
пан!
Вераб'і іграюць марш:
— Едзе,
едзе —
на кірмаш!..
Пан сядзіць і ў вус не дуе,
Едзе ноч—адну, другую.
Без канца, без перастанку,
Колькі сілы, цягнуць санкі
Цераз пушчы, цераз горы,
Праз даліны, праз азёры,
Без дарогі, без шляхоў
Адзінаццаць пар ласёў.
А з бакоў бягуць ваўкі,
Як стральцы-вартаўнікі.
Караван стралой імчыцца,
Хмарай снежны пыл віхрыцца.
Пану—
мала, мала, мала;
Гоніць ход, страшэнны ход!
Зло ў ласёў забушавала,
Гневам кроў забунтавала:
— Эх, трымайся, жываглот!
Як рванулі, тузанулі,
Санкі ў бок перавярнулі.

Пан кручком перакуліўся,
І, як бочка, пакаціўся
З горкі —
ўніз,
уніз,
уніз...
Пана снегам заваліла,
Курганом расла магіла.
— Будзе помніць, будзе знаць,
Як чужую кроў смактаць!
А ласі з ваўкамі ходу—
У лес!
На волю!
На свабоду!





# АДКУЛЬ ЦЯЧЭ СЕРАБРАНКА

Апавяданне Якаўлеў
Малюнкі А. Шахрая

Нашы хлопцы хадзілі ўчора ў поле, а сёння на рэчку Серабранку. Паводка даўным даўно прайшла. Серабранка цячэ ціха, ласкава серабрыцца каля вялікіх каменняў і перакатаў.

А вось колькі дзён таму зусім не тое было тут. Сярдзітым, мутным патокам бурліла рака, залівала яна ўвесь луг, што супроць нашай вёскі.

На лузе цяпер засталіся толькі маленькія азёрцы. Гэтыя азёрцы раскіданы, нібы асколкі ад люстэрка сярод шырокіх зялёных прастораў.

— Адкуль цячэ Серабранка? — запытаў Ільюшка Сініцын.

— З Грыбанава,—адказаў Міколка Клімаў.

Але іншыя заспрачаліся.

— Не з Грыбанава, а з Дубцоў,—сказаў Сымонка.

І ніхто з хлапцоў не мог сказаць, адкуль цячэ Серабранка.

Пайшлі яны пытацца ў дзядзькі Якіма.

— Цячэ, няхай сабе цячэ. Нам гэта не цікава ведаць. А вам навошта?

— Нам цікава,—адказалі хлопцы.

— Калі вам цікава, дык схадзіце і даведайцеся. Чуў я, нібы з гары Відзім цячэ яна, а дзе тая гара—не ведаю.

— Вось што, браткі,—сказаў Ільюша,— хадзем па рэчцы ўверх і самі даведаемся.

Праз дзень нашы хлопцы выйшлі ў дарогу—шукаць адкуль цачэ Серабранка.

Іх было пяцёра. Яны ўзялі з сабою харчы і кацялок—дарога далёкая. Не забыліся ўзяць і вуды.

З песнямі выйшлі яны за вёску. Раніца толькі разгаралася. У далінах, над лугамі, стаяла белая пара. Блішчастыя пацеркі расы зіхацелі ў траве.

Жаваранкі заліваліся песнямі ў вышыні, а ў траве крычалі драчы і перапёлкі.

Каля Казінага балота Серабранка паварачвае ў адзін бок, а дарога ідзе ў другі. Толькі невялічкая сцежачка бяжыць па беразе. Хлопцы перайшлі з дарогі на сцежачку і адзін за другім пайшлі ўздоўж берага.

Серабранка абапал зарасла асакою і чаротам. Часамі яна звужалася да невялічкага раўчука, што можна было пераскочыць.

Ужо сонца паднялося высока на небе, як хлопцы падыходзілі да аднае вёскі. Сустрэлі барадатага дзядзьку.

— Куды ідзіцё, хлопцы? — запытаўся ён.

— Хочам паглядзець адкуль цячэ Серабранка.

Дзядзька засмяяўся.

— А навошта гэта вам?

— Проста хочам ведаць. Ты, дзядзька, не ведаеш—адкуль?

— Чаму-ж не. Ведаю. Вёрст 20 будзе адгэтуль. Да заўтра можа і дойдзеце. Гэта пад самаю гарою Відзім. А гара тая вялікая,—адсюль відаць.



— А дзе-ж яна?

— Вось пройдзеце яшчэ вярсты тры, Серабранка ўправа паверне, тут стары млын будзе, дык вы і глядзіце тады ўправа, — з абрыва добра відаць гара Відзім.

Хацелі хлопцы спыніцца тут, падсілкавацца ды Петрык адгаварыў. Пайшлі вясёлыя далей. Скора вёска патанула ў зелені. Мінулі лес.

— А дзе-ж стары млын?

Ва ўсе бакі глядзелі,— млына няма. Толькі лёгкі шум вады чуваць, быў з сенажаці. Сцежка пачала апускацца, і хлопцы ўбачылі шырокі струмень падаючай уніз вады. Каля вадаспада віднеліся пагніўшыя слупы.

— Ну, вось тут быў млын,—сказаў Ільюша. Хлопцы падыйшлі бліжэй. Вада шумела так моцна, што прыходзілася крычаць. А з боку расцілалася шырокае возера.

— Ну, тут адпачнем,— сказаў Петрык.

— А я палаўлю рыбу,—адгукнуўся Ільюша.

Праз гадзіну здаволеныя хлопцы сядзелі каля агню і елі свежую поліўку з рыбы.

— А дзе-ж гара, пра якую гаварыў той дзядзька?

— Вось мы зараз паглядзім.

Узышлі на ўзгорак. Проста перад імі віднелася высокая гара, абросшая з бакоў лесам, які адгэтуль здаваўся дробненькім кустарнікам.

— Вось і гара.

Хлопцы адпачылі, пайшлі далей. Зноў падняліся на ўзгорак. Адгэтуль было відаць, што Серабранка робіць многа выкрунтасаў. А ад узгорка да сяла ішла простая дарога.

—Пойдзем дарогаю, скарэй дойдзем,—прапанаваў Петрык.

— Хадзем.

Па дарозе іх некалькі разоў спынялі, пыталі куды ідуць, дзівіліся, смяяліся, але ўсе, хто пытаў, і самі задумваліся: адкуль-жа цячэ Серабранка?

Адзін пажылы дзядзька сказаў:

— Цячэ ад гары Відзім, гэта я ведаю. З правага боку крыніцы там б'юць. Ідзіце ўздоўж рэчкі,—убачыце. Вёска там недалёка, Шульгінкаю называецца.

— Ну, цяпер скора, — сказаў Петрык,—да вечара, напэўна, дойдзем.



Не паспелі хлопцы выйсці за вёску, як з захаду ўзнялася палавая хмара. Усё навокал адразу пацямнела.

Дождж зашумеў, але не на доўга. Перастаў ён адразу, як і пачаўся.

Добра было ісці па мокрай дарозе хлопцам. А сонца апускалася ўсё ніжэй і ніжэй. Вось, вось дакранецца яно да гарызонта. Нарэшце паказалася і вёска.

Сонца схавалася, калі хлопцы прыйшлі ў вёску і ў першай жанчыны папрасіліся начаваць.

На другі дзень зноў рушылі ў дарогу. Гара ўзнімалася проста ад ваколіцы. А на гары рос ліпавы і дубовы лес. З лесу цякла Серабранка.

Лесам хлопцы пайшлі ўздоўж Серабранкі. На паваропе ўбачылі яны вадаспад. Сцежка ішла з правага боку ад вадаспада. Падняліся ўверх. Тут маленькія раўчукі беглі да абрыва з усіх бакоў. Але ўсе яны пачыналіся вось тут, за некалькі шагоў ад абрыва. Вялікі ручэй цёк ад зруба.

— Глядзіце, як б'е з зямлі вада. Гэта-ж тут крыніца!

— Ура! Знайшлі! Вось адкуль цячэ наша Серабранка.

---

## Зрабі сам

# КУЛЯМЁТ




Вазьмі кавалачак фанеры ці звычайнай дошкі і выраж а яе часткі кулямёта, намалёваныя на рысунку 1 і 3. Колы выраж з круглага палена (рыс. 2). Рулю і вось (рыс. 4, 5) выраж з танчэйшых кіёчкаў. Цяпер усе зробленыя часткі змацуй цвікамі і будзеш мець самадзельны кулямёт.

# МІХАСЁВЫ ПРЫГОДЫ

ЯКУБ КОЛАС

Малюнкі В. Тіхановіча

*(КАНЕЦ)*

IX

Замаркоціўся лясок,
Змоўк птушыны галасок,
Глуха стала ў полі.
Травы, краскі адцвілі.
Ходзіць вецер па зямлі
Ды чагосьць скаголіць.
Патускнела яснасць дзён.
Хмары сцелюцца, як лён,
Ды звісаюць нізка.
Залягае, як туга,
На твар далечы смуга—
Восень блізка, блізка.
Шле яна сваіх паслоў
Па гусей і па буслоў—
Час ім, час у вырай!
Шлях ім трудны, не малы,
Гуртам радзяцца буслы—
Шырай крыллі, шырай!
Апусцеў разлог палёў.
Трактар песню зноў завёў
Громка, дзелавіта:
„Эй, калгасны вольны люд!
Будзе твой аплачан труд—
Сей-жа ў часе жыта“.

Каля хаты цёткі Каці,
Што стаіць тут каля гаці,
Дзе на мост ідзе дарога,
Для дзяцей прастору многа.
Тут грудок ёсць, ды сухі
І утульны, хоць глухі.
На грудку пясок-жаўток.
Любяць дзеці той куток.
Гэта тут Міхась гуляў
Ды з пясочкам размаўляў,
Ладзіў печы і пячуркі,
Падкапаўшы беражок,
Насыпаў пяску стажок,
Пёк „аладкі“ і „мазуркі“.
А цяпер другі малюнак:
Тут дзіцячы карнавал.
Між дзяцей і наш Міхал.
Ён разгортвае рысунак
Ды расказвае дзятве,
Чым-жа горад той жыве:
Чым ён слаўны, чым багаты,
Як у ім праводзяць святы,
Дні Кастрычніка і Май,
Як там б'е жыццё праз край.

Ён разказвае
І паказвае



Рухам губ і рук,
Як трамвай ідзе,
Як тады гудзе
Маставіна-брук.
А дадуць званок,—
Уцякай на бок,
Не страляй варон!
Сцеражыся, брат,
Хоць які ты хват,
Бо там рух-разгон!
Тут азваўся Кандрат
І сказаў, ды не ў лад.
Не да рэчы,
Абы толькі папярэчыць:
— А я стаў-бы і не бег,
Хай сабе-б званілі.—
Паднялі Кантрата на смех,
Кандратаву дзёрзасць разбілі.
Ты, Кандрат, уважай:
Там не месца хвату—
Наляцеў-бы трамвай—
І каюк Кандрату!
Міхась-жа на тую самую тэму
Разгортвае далей паэму:
... І не толькі трамвай—
Ёсць аўтамабілі.
Жыгануць, дык і знай—
Адсякуць паўмілі.
А якія гудкі,
Каб вы знали, браткі!
Грузавік,
Ну, як бык
Зараве—гу-гу!
Легкавы
Больш жывы
Гэтак гукне: рру!
— А ў нас —
Адазваўся Ахрэмаў Панас:
Ёсць аж тры
Трактары!
Вось гудуць,
Дык гудуць!
Ды барозны вядуць
І аўса не ядуць!
— Трактары—гэта што!
А ці бачыў з вас хто











Танкі і танкеты?
А ёсьць танк-бранявік,
Што як хмара вялік
Большы за дом гэты!
Вось калі ён ідзе,
Дык зямля ўся гудзе,
Брук каменны гнецца.
Ён брыдзе па вадзе,
І не спыніцца нідзе—
Лес пад ім кладзецца!
Не баіцца балот,
Ломіць плот, ды рве дрот
Вось як павуціну!
І на вочы свае
Сам я бачыў яе,
Гэтую машыну.
Авалодаў Міхась грамадою
І пра майскі парад
Робіць цэлы даклад—
На парадзе ён сам быў вясною.
Там стралялі з гармат,
Разоў дзесяць падрад—
Бух! Бух! Бух!
Навокала збіўся народ.
Рушыла войска ўпярод.
І пачаўся рух,
Кавалерыя,
Артылерыя,
Бясконцыя роты
Пяхоты.
А гарматы-ж! Якія гарматы!
Вораг гляне на іх — дух у пяты.
Жарало,
Як дупло
Спаленага дуба.
Не чапай
Ты наш край—
Будзе табе згуба!
Вязуць іх машыны і коні,
Зямля пад імі гамоніць.
Рушылі танкі адны за другім,
Глядзіш—і канца няма ім!
Тачанкі пайшлі, кулямёты,
Танкеткі, а ўгары самалёты,
Ды такія-ж ужо штукары:
Рэжуць надземныя нетры,

Робяць мёртвыя петлі ў паветры
Ды сыплюць лістоўкі з гары.
Ляцяць яны, як галубкі,
А вецер іх горне ў клубкі,
А яны ад яго—лататы,
Зірнуць—адна любата.
За войскам пайшлі і саюзы,
ВУЗЫ
і ВТУЗЫ.
І „сінія блузы“.
Іх сцягі як макі,
А надпіс усякі.
Мільгаюць плакаты,
Буржуй на плакаце пузаты,
Кулакі і папы,
Ды такія, што ўбачыць сляпы—
Чэрава—ну на траіх!
Галёканне, смех каля іх!
А трубы грымяць—
Тра-ра-ра!
І крыкі гучаць:
Ура!
На другі-ж дзень мая
Горад выглядае
Трохі ўжо іначай—
Ідуць вучні з школаў
І з садоў дзіцячых.

———

Лецейка ты лета!
Гучна песня спета,
Весела было!
Бралі поўнай чарай
Шчодрасць тваю, дары—
сонца і святло.
Цешыла ты дзетак
Ды ласкава гэтак—
Матчынай рукой:
Воляй маладою,
Цёплаю вадою,
Чыстаю расой,
Полем і лясамі,
Спевам—галасамі
Ясных дзён тваіх.
Мыла іх расою,
Сонцавай касою
Уцірала іх...
Чарай асалоду
Чэрпалі, як воду,
Поўнаю, за край.
Залатое лета!
Дык прымі-ж за гэта
Шчырае „бывай“!



Цана 30 кап.





# Якія тут недарэчнасці?

**У гэтым малюнку мастак зрабіў 30 памылак. Паспрабуйце знайсці іх.**



# ЧЫТАЧ І ГУСАК



1. На лужку,
У цішку
Зачытаўся Васіль
І не чуў, як матыль
На лужок прыляцеў,
На газеціне сеў.

2. А гусак
Знюхаў смак.
Ён даўно тут стаяў,
На здабычу чакаў.





3. Скакануў,
Дзюбануў,
Але так, што наскрозь
Праз газету—і вось:
Ён замест матыля
Хап!—за нос Васіля...

А. ДЗЯРКАЧ.

ВЫДАВЕЦТВА ЦК ЛКСМБ „ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА". Рэдактар А. ЯКІМОВІЧ

Друкарня імя Сталіна. Заказ № 903. 5545 экз. Менгарліт № 6938.